# БЕЛАРУСЫ Ў СВЕЦЕ

№10 (209)

кастрычнік 2019

Інфармацыйны бюлетэнь • Міжнароднае грамадскае аб'яднанне "Згуртаванне беларусаў свету "Бацькаўшчына"



## У НУМАРЫ:





# Алесь Чайчыц: "Беларусь расійцам проста не цікавая"

Гісторыя Алеся Чайчыца выбіваецца з ліку лёсаў тых прадстаўнікоў нашай дыяспары, пра якіх мы пісалі раней. Сын дыпламата, паспяховы супрацоўнік у сферы міжнароднага PR, які папулярызуе і падтрымлівае ў публічнай прасторы Раду БНР.

Зрэшты, пра ўсё па чарзе.

### Я дзіця Масквы

**– Як вы апынуліся ў Маскве?**

– Я тут нарадзіўся. Бацька з Беларусі прыехаў у Маскву вучыцца, пасля працаваў у МЗС СССР. З матчынага боку прадзед прыехаў сюды з Латвіі: быў чальцом бальшавіцкай партыі, удзельнікам рэвалюцыі. З боку бабулі татарскія продкі эмігравалі ў Японію, пасля вярнуліся ў Ташкент, пасля ў Маскву. З Украіны прадзед сюды прыехаў архітэктарам працаваць... Масква – гэта плавільны кацёл нацыянальнасцяў. Я дзіця Масквы.

**– Чаму абралі беларускую ідэнтычнасць? Выбар быў шырокі.**

– Не адмаўляюся ні ад якіх каранёў. Апошнім часам шмат Латвіяй цікаўлюся, з латышскай дыяспарай нават больш узаемадзейнічаю, чым з беларускай. Латышом таксама сябе лічу, як і беларусам. А наконт беларускасці... Бацька пасля савецкага МЗС стаў беларускім дыпламатам. Ёсць кадры хронікі, дзе ён урачыста ўздымае бел-чырвона-белы сцяг над першай амбасадай Беларусі ў Германіі. Наогул, значную частку жыцця ў 1990-я давялося пражыць у Германіі, Аўстрыі. Я быў у статусе сына беларускага дыпламата, і гэта накладала пэўны абавязак прадстаўляць краіну і на сваім узроўні. Ведаеце, там было такое кам'юніці з сем'яў і дзяцей дыпламатаў постсавецкіх краінаў. З Расіі, Беларусі, Украіны, Казахстана... І там цябе пытаюць: "Хто ты? Скуль?" Я быў грамадзянінам Расіі, але адчуваў адказнасць: рэпрэзентаваць Беларусь. Так, напэўна, усё і пачалося. Мне шмат даў той момант жыцця ў замежжы, у тым ліку ў плане ідэнтычнасці.

### Настаўніца з ТБМ мяне не вельмі палюбіла...

**– А мову як вучылі?**

– Праца ў МЗС прадугледжвае чаргаванне: некалькі гадоў у амбасадзе, некалькі – у міністэрстве на радзіме. Так, пару гадоў мы пасля жылі ў Мінску, я хадзіў у звычайную рускамоўную школу №73 на Калініна. З беларускай мовай і літаратурай у мяне не вельмі пайшло. Рэшта дзяцей з 1-га класа вучылі, а я трапіў без папярэдняй падрыхтоўкі. Дык вось, настаўніца мовы і літаратуры, якая была сябрам ТБМ, мяне не вельмі палюбіла: пыталася гэтаксама, як і ў астатніх. Можа, акурат таму, што я з Расіі. Гэта былі 1995–1996 гады.

**– І матывацыі не было...**

– Ну, гэта правал той жанчыны як педагога. Я беларускай мовы і так не ведаў, вучыць было цяжка, а праз яе пачаў не любіць. Бацьку пасля адправілі ў Аўстрыю. Там я зноў адчуў адказнасць: рэпрэзентаваць краіну. Гэта хіба і было штуршком, каб зацікавіцца беларушчынай. Збег абставінаў, магло ж і па-іншаму стацца.

Працяг на старонцы 4.




**навіны**

# БЕЛАРУСЫ ШВЕЦЫІ ПРАТЭСТАВАЛІ СУПРАЦЬ НАЗВЫ "БЕЛАРАСІЯ"

15 кастрычніка згуртаванне беларускай дыяспары ў Швецыі "Sveriges Belarusier" зладзіла ў цэнтры Стакгольма пікет. На ім беларусы заклікалі новага міністра замежных справаў Анн Ліндэ канчаткова прыбраць з афіцыйнага ўжытку назву Беларусі "Vitryssland".

Удзельнікі трымалі плакаты са слоганамі "Мы – не белыя расейцы", "Ты – не белафін, я – не беларасеец", "Гэта не мы прысвоілі (Бела)Крым" і "Гэта не мы абралі (Бела)Пуціна". Адзін з удзельнікаў быў апрануты ў белага мядзьведзя з шыльдай "Белы расійскі (не беларасейскі) мядзьведзь" і абураўся, што яго блытаюць з беларусамі. Са словаў арганізатараў, з імі ўжо звязаўся афіцыйны прадстаўнік міністра замежных спраў, які запэўніў, што пытанне будзе на павестцы ў міністра.

"Мы хочам, каб Ан Ліндэ ўявіла сабе адчуванні чалавека, якога штодня блытаюць з іншым народам і асацыююць з краінай, у якой за апошні час склалася вельмі адмоўная рэпутацыя сярод шведаў. Магчыма, тады яна паставіцца да нашага закліку больш сур'ёзна" – кажа Леся Руднік, старшыня рады "Беларусаў Швецыі".

"Гэта нармальна, калі краіна на розных мовах называецца па-рознаму. Але калі ў назве закладзеная назва іншай сучаснай краіны, ды яшчэ вельмі праблемнай краіны, гэта – праблема", – кажа Міхаіл Сэндэр, былы дырэктар беларускай інтэрнэт-пляцоўкі "Куфар".

Калі БССР (па-шведску "Vitryssland") у 1991 годзе афіцыйна змяніла назву на "Беларусь", гэтая змена аніяк не была зафіксаваная ў шведскай мове. Шведы працягвалі называць Беларусь "Vitryssland", што ў наўпраставым перакладзе азначае "Беларасія", а беларусаў – "vitryssar" ("беларасійцы"). Пасля шматлікіх заклікаў беларускай дыяспары, Шведская Акадэмія пагадзілася ўнесці ў шведскі слоўнік новую назву для беларусаў – "belarusier". Гэтую назву разам з новай назвай краіны "Belarus" паступова пачалі выкарыстоўваць некаторыя шведскія СМІ і арганізацыі. Беларуская амбасада ў Швецыі таксама ўжывае толькі "Belarus". У 2015 годзе шведскі МЗС пагадзіўся ўнесці новую назву "Belarus" у афіцыйны спіс назваў краін, але ў дужках побач са старой.

**"Sveriges Belarusier"**

# МІЖВАЕННАЯ ЗАМЕЖНАЯ БЕЛАРУСКАЯ ЛІТАРАТУРА ЦЯПЕР ДАСЯЖНАЯ АНЛАЙН!

Нацыянальная Бібліятэка Беларусі выклала ў вольны доступ электронныя версіі міжваенных беларускіх часопісаў – паведамляе вядомы блогер і пісьменнік Уладзімір Садоўскі, які вядзе папулярны тэлеграм-канал "Беларускі піонэр".

Да ўвагі чытачоў прапануюцца часопісы, якія выходзілі ў БССР, Заходняй Беларусі, а таксама ў далёкім замежжы ў 1919-1939 гадах. Для пампавання ўжо дасяжныя і легендарнае "Полымя", і знакамітае "Калоссе", і сатырычная "Маланка" і іншыя выданні. Паводле Садоўскага, гэта гігабайты выданняў, якія раней блогер пампаваў з электронных рэсурсаў унутры бібліятэкі. Цяпер жа гэта можна рабіць не выходзячы з дому.

Чытайце беларускую класіку ў арыгінале!

**budzma.by**




# PEN INTERNATIONAL CONGRESS MANILA

## Кангрэс Міжнароднага ПЭНа прыняў рэзалюцыю адносна беларускай мовы

Асамблея дэлегатаў Міжнароднага ПЭНа на 85-м штогадовым Кангрэсе, які адбыўся ў Маніле 1–5 кастрычніка, выказала занепакоенасць працяглай стыгматызацыяй беларускай мовы ў Беларусі, дзе ўлады ўжо амаль тры дзесяцігоддзі імкнуцца замацаваць дамінаванне рускай мовы.

"85 Кангрэс Міжнароднага ПЭНа прыняў прапанаваную Беларускім ПЭНам рэзалюцыю адносна беларускай мовы. Мы вельмі добра разумеем: на рэзалюцыі праца не заканчваецца, а толькі пачынаецца. Беларускі ПЭН у кансорцыуме з іншымі беларускімі арганізацыямі працуе над супольнай кампаніяй па адвакатаванні беларускай мовы. І тут такая падтрымка нязвыкла істотная, бо часта менавіта знешні інтарэс дазваляе заставацца ў тонусе інтарэсу ўнутранаму – на ўсіх узроўнях. А перадусім мы вельмі ўдзячныя ПЭНам Амерыкі, Украіны, Польшчы, Эстоніі, Латвіі і Санкт-Пецярбурга, якія падтрымалі нашу рэзалюцыю на самым пачатку (для вылучэння на галасаванне Кангрэса). Таксама дзякуй вялікі тэлеканалу "Белсат" і ўсяму кансорцыуму арганізацый кампаніі "Беларускамоўныя" за супрацу і дапамогу ў рабоце над рэзалюцыяй", – каментуе падзею старшыня Беларускага ПЭН-цэнтра Таццяна Нядбай.

У закліку ПЭНа адзначаецца, што ўлады цураюцца беларускай мовы. На афіцыйным узроўні ўсе законы напісаныя па-руску. Абмяжоўваецца доступ да адукацыі на беларускай мове: толькі 13% вучняў навучаюцца па-беларуску, а ў краіне няма ніводнага ўніверсітэту з беларускай мовай выкладання. У Беларусі 85% кніг выдаюцца па-руску.

У той жа час "Белсат" не можа платна прасоўваць уласны відэакантэнт на сваіх жа "YouTube"-каналах, бо "Google Ads" не падтрымлівае беларускай мовы. Гэта сур'ёзна ўплывае на эфектыўнасць спробаў пашырэння глядацкай аўдыторыі ды распаўсюду пэўнай і спраўджанай інфармацыі.

Асамблея дэлегатаў Міжнароднага ПЭНа заклікае Беларусь: дзеяць згодна з Артыкулам 17 Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь, які заканадаўча замацаваў статус беларускай мовы як дзяржаўнай.

Асамблея дэлегатаў Міжнароднага ПЭН-клуба заклікае "Google" ды іншыя інтэрнэт-платформы прызнаць беларускую мову і забяспечыць беларусам магчымасць выказвацца і свабодна камунікаваць з прадстаўнікамі ўласных супольнасцяў ды іншымі людзьмі на беларускай мове.

**Беларускі ПЭН-Цэнтр**

навіны

# СЯБРЫ БЕЛАРУСКА-АМЕРЫКАНСКАГА ЗАДЗІНОЧАННЯ АДЗНАЧЫЛІ 70-Я ЎГОДКІ

13 кастрычніка адбылося святкаванне 70-х угодкаў Беларуска-Амерыканскага Задзіночання, найстарэйшай арганізацыі беларускай дыяспары ў Амерыцы. Ужо 70 гадоў сябры БАЗА годна прадстаўляюць беларускі народ у Амерыцы, захоўваюць і ўзбагачаюць сваю нацыянальную культуру, падтрымліваюць беларусаў на Бацькаўшчыне.



Беларуска-Амерыканскае Задзіночанне было ўтворанае паваеннай хваляй беларускай эміграцыі 31 ліпеня 1947 года. Асноўнымі мэтамі было захаванне нацыянальнай ідэнтычнасці, уплыў на амерыканскіх палітыкаў з мэтай спрыяння дасягненню незалежнасці Беларусі, змаганне за дэмакратыю і правы чалавека на Бацькаўшчыне.

За сем дзесяцігоддзяў актывісты БАЗА правялі сотні культурніцкіх мерапрыемстваў і палітычных акцый, некалькі дзесяцігоддзяў арганізацыя выдае газету "БЕЛАРУС"

Святкаванне юбілею прайшло ў беларускім цэнтры пры саборы Св. Кірылы Тураўскага ў Брукліне (Нью-Ёрк).

Сябры БАЗА з'ехаліся з розных штатаў Амерыкі, дзе месяцца аддзелы арганізацыі – Нью-Ёрк, Нью-Джэрсі, Пенсільванія, Вашынгтон (акруга Калумбія), Фларыда – каб разам адсвяткаваць юбілей задзіночання.

У святочнай праграме былі віншавальныя прамовы ад дзейнай старшыні Галоўнай управы БАЗА Наталлі Федарэнка, і ад старшыняў аддзелаў, якія змаглі асабіста далучыцца да святкавання: Юрка Азарка (аддзел Нью-Джэрсі), Сяргей Кудзеліч (аддзел Нью-Ёрк), Андрэй Пушкароў (аддзел у Паўднёвай Фларыдзе).

Былі зачытаныя віншаванні ад розных сяброў і сяброўскіх арганізацый.

З рэфератам "Гісторыя Беларуска-Амерыканскага Задзіночання" выступіў старшыня Парафіяльнай Рады сабору Св. Кірылы Тураўскага і адзін з найстарэйшых сябраў БАЗА – Расціслаў Гарошка.

Ганна Сурмач зрабіла прэзентацыю сваёй кнігі "Беларускі Нью-Ёрк", у якой падаецца шматлікія цікавыя факты беларускай прысутнасці ў Нью-Ёрку і ваколіцах, да таго ж вялікая ўвага ў кнізе надаецца менавіта гісторыі Беларуска-Амерыканскага Задзіночання.

Заключнай часткай святочнай праграмы быў музычны канцэрт. Госці атрымалі асалоду ад выступаў Валянціны Пархоменка (салісткі сямейнага трыа Казакоў), Сержука Сокалава-Воюша, а таксама Аляксандры Беляковіч.

**Наталля Федарэнка**

# ЗВІНІЦЬ ЗВАНОК...

Зусім нядаўна скончыліся летнія канікулы. Школьны званок паклікаў дзяцей за парты. Час ляціць вельмі хутка. Вось ужо і Дзень настаўніка, які ва ўсім свеце адзначаецца 5 кастрычніка.



У беларускім таварыстве "Уздым" ёсць добрая традыцыя – напярэдадні свята настаўнікаў пачынаць заняткі ў беларускай школе "Вясёлка" (заняткі ў школе праходзяць па нядзелях з 13.00 да 15.00 у Цэнтры беларускай культуры).

1 верасня ў Беларусі ў г. Слонім Гродзенскай вобласці прайшло свята "Дзень беларускага пісьменства". Гэтай падзеі быў прысвечаны і наш першы школьны адкрыты ўрок, які падрыхтавалі і правялі куратар беларускай школы Людміла Сінякова, настаўнікі Алена Радзівонава і Вольга Паўловіч.

На ўроку прысутнічалі выхаванцы беларускай школы, дзеці членаў таварыства "Уздым", бацькі. Ганаровым госцем быў паэт, член Саюза пісьменнікаў Беларусі Станіслаў Валодзька, які чытаў для дзяцей свае вершы.

З віншавальнымі словамі да бацькоў і дзяцей звярнулася старшыня беларускага таварыства "Уздым", кіраўнік ЦБК Жанна Раманоўская. Яна перадала падарункі - кнігі, якія для дзяцей падрыхтавала пасольства РБ у Латвіі. Да пачатку навучальнага года школа атрымала кнігі пра Беларусь, мастацкую і метадычную літаратуру.

Вось ужо на працягу некалькіх гадоў нашы дзеці прымаюць удзел у міжнародным конкурсе малюнкаў, які арганізуе аб'яднанне беларусаў "Радзіма" з г. Талін (Эстонія). Сёлета мы зноў атрымалі запрашэнне. Тэма конкурсу – "Спяваюць паэты на зямлі...". Конкурс прысвечаны 90-годдзю з дня нараджэння беларускай паэткі Еўдакіі Лось, творчасць якой звязана з Латвіяй. Дзецям было прапанавана прачытаць вершы паэткі і падрыхтаваць да 20 кастрычніка малюнкі.

Мы, настаўнікі, спадзяемся, што і сёлета ў зборніку вершаў Е. Лось, які будзе выдадзены на эстонскай зямлі, будуць надрукаваны малюнкі нашых дзяцей.

У школе "Вясёлка" прагучаў першы школьны званок, які па традыцыі даў самы маленькі вучань школы Алекс Кавалеўскі разам са сваёй мамай Марытай.

А потым быў салодкі стол і чаяванне, падчас якога абмяркоўваліся розныя пытанні.

Чакаем новае папаўненне ў нашу школу.

**Людміла Сінякова, куратар беларускай школы "Вясёлка"**

гутарка

# Алесь Чайчыц: “Беларусь расійцам проста не цікавая”

Працяг са старонкі 1.




Разам са Станіславам Шушкевічам на на Сёмым з’ездзе беларусаў свету

### Сёння не хацеў бы працаваць на дзяржаву. У іншай сітуацыі – так

**– Не было думкі пайсці па шляху бацькі, зрабіць дыпламатычную кар’еру?**

– Была мара, вядома. Хацеў быць дыпламатам. Але на цяперашні ўрад працаваць акурат не хацеў бы. Зрэшты, я таксама грамадзянін Латвіі, адно што мову трэба падцягнуць...

**– Як складалася Ваша кар’ера?**

– Я скончыў Фінансавы ўніверсітэт у Маскве. Папрацаваў у аўдыце, у кансалтынгу, непасрэдна ў вялікай міжнароднай кампаніі. Пасля перайшоў у бізнес-журналістыку: пісаў пра фінансы, рынкі капіталаў. Працаваў у Лондане на брытанскае інфармацыйнае выданне, якое было ў складзе групы Financial Times. З 2011 года працую ў сферы міжнароднага PR і сувязяў з інвестарамі.

**– Як гэта выглядае на практыцы?**

– Ёсць вялікія кампаніі, чые акцыі таргуюцца на заходніх біржах: Лондан, Нью-Ёрк... Ёсць строгія патрабаванні адносна камунікацыі паміж такімі кампаніямі і міжнароднай інвестыцыйнай супольнасцю: фондамі, банкамі, аналітыкамі. Да гэтай аўдыторыі трэба вельмі пільна, дысцыплінавана і якасна даносіць інфармацыю аб тым, як справы ў кампаніі, якія ў яе паказчыкі, як бягучыя падзеі адбіваюцца на стратэгіі, якія перспектывы. Тым, хто кіруе грашыма ў пэўным фондзе, трэба разумець, куды рухаецца кампанія, у якую яны інвестуюць. Такім чынам, кампаніі маюць як найпрост камунікаваць з імі, так і праз медыя, праз інструменты PR, вэб-сайт і гэтак далей.

**– Ці можна было б рэалізавацца ў падобным сектары, жывучы ў Мінску?**

– У прыватным сектары – амаль немагчыма. Ёсць у Беларусі буйныя кампаніі, але іх можна пералічыць на пальцах адной рукі: EPAM, Wargaming... Кампаніі, якія адной нагой у Беларусі, адной на Захадзе. Хіба толькі ў іх. Ёсць, вядома, дзяржаўнае інвестыцыйнае агенцтва. Таксама маёй сферы адпавядае. Але ў сённяшняй сітуацыі я не хацеў бы працаваць на беларускую дзяржаву. Пры іншых палітычных абставінах, калі б прапанавалі, можа, нават і бясплатна б кансультаваў, дапамагаў. Для дабра краіны. Сёння – не.

### Рада БНР – калектыўная брытанская каралева

**– У Беларусі часта бываеце?**

– Амаль не бываю. У мяне раней дзядуля быў у Беларусі. Цяпр няма. Толькі далёкія сваякі. Таму зрэдку.

**– Але ж беларускімі справамі цікавіцеся, раней у беларускія СМІ таксама пісалі...**

– Так, цікаўлюся надалей. Актыўна ангажавацца няма часу. І па працы загруз, і сямейных справаў багата. Кожны актывіст праходзіць праз такі перыяд: у маладосці ёсць час і сілы, а пасля 30-ці пачынаюцца хатнія абавязкі.

**– А Рада БНР?**

– Гэта ўнікальная гістарычная з’ява, цешуся, што ўжо шмат гадоў маю да яе дачыненне.

**– Раскажыце, бо для большасці гэта таямніца. Што за “ордэн” такі сакрэтны, чым займаецца і для чаго?**

– Нічога сакрэтнага. Для мяне Рада БНР – гэта перадусім беларуская гістарычная каштоўнасць, якая захавалася ажно з 1917 года. У Беларусі наогул мала што існуе такі працяглы час. Скажам, быў маёнтак 150 гадоў таму, належаў сям’і, а цяпер ужо не належыць, там іншыя людзі, а можа, і маёнтка таго няма... І так з усім. Нават рэчаў старых у нас вобмаль. Усё перарвалі ў ХХ ст. А Рада БНР – гэта рэальная грамадска-палітычная і дзяржаўная структура, якая дзейнічае з таго часу. Фактычна, сярод інстытуцыяў у Беларусі старэйшы хіба толькі Каталіцкі Касцёл. Гэта захапляе. Чальцы Рады – гэта некалькі дзясяткаў найбольш заслужаных актывістаў дыяспары ў розных краінах. Гэта адзіная структура, акрамя ЗБС “Бацькаўшчына”, якая аб’ядноўвае нашых эмігрантаў ад Канады і да Расіі.

**– Такая сабе брытанская манархія?**

– Ці калектыўная брытанская каралева (смяецца). Як і каралева, Рада мае важную місію як носьбіт і захавальнік традыцыяў.

**– А які ваш удзел у Радзе?**

– У сацыяльных сетках і на сайце мы пастаянна публікуем інфармацыю пра памятныя даты, дзеячаў, падзеі з гісторыі БНР. У вольны час я вывучаю гістарычную літаратуру пра БНР, дакументы і старыя газеты, якія ёсць у анлайн-дасяжнасці, шукаю там звесткі. Гэтак мы папулярызуем спадчыну, ідэі, выдатных асобаў. Цешуся, што пра ўсё гэта цяпер шырэй і шырэй пішуць у Беларусі. Ці мы нейк далі імпульс, ці проста трапілі ў агульны трэнд, я не ведаю. У любым выпадку шчыра рады.

### У Беларусі ўсе каталікі, палякі, там касцёлы і замкі...

**– Як Беларусь бачыцца расійцам? Ці цікавая наогул?**

– У Расіі ведаюць набор стэрэатыпаў: “Лукашэнка-бульба-трактар-партызаны”. Беларусь проста не цікавая. Прасунутыя людзі больш ведаюць Заходнюю Еўропу ці Амерыку. У Беларусь яны не ездзяць ці ездзяць вельмі мала. Зрэдку чалавек трапляе і набіраецца ўжо іншых стэрэатыпаў: “У Беларусі ўсе каталікі, палякі, там касцёлы і замкі...”

**– Расійцы бачаць нас асобнай нацыяй і дзяржавай?**

– Большасць расійцаў пра гэта наогул не думае. А хто думае, той мае, зноў жа, стэрэатыпы: “Там такія ж рускія людзі, толькі з Лукашэнкам”. Хаця і мовы, і прозвішчы, і культура – усё рознае. Мы сваяцкія, блізкія, але розныя нацыі. Расійцы – людзі максімалістычныя: або абдымаюцца па-брацку, або лічаць кроўным ворагам. Не хапае спакойнага дыстанцыйнага стаўлення. Украіна заўжды была больш вядомай і цікавай. І памеры іншыя, і сувязяў больш, і цэнтры расійскай культуры (Кіеў, Адэса, Харкаў), і асобы (Гогаль, Булгакаў), усё на купу... Беларусь у гэтай сітуацыі выглядае белай плямай. Мінск ці Полацк так многа не значаць нават для адукаваных расійцаў.

### У Маскве і Піцеры былі нават суполкі БНФ

**– Беларуская дыяспара ў Расіі – што гэта?**

– Ёсць Федэральная аўтаномія беларусаў у РФ, гэткая калядзяржаўная парасолькавая структура, якая аб’ядноўвае арганізацыі з Масквы, Самары, многіх іншых гарадоў. Але гэта больш нагадвае клуб людзей сталага веку, якія збіраюцца на Дзень перамогі, спяваюць савецкія песні, выдаюць кнігі пра Машэрава.

**– Вам з імі цікава?**

– Мне – не. Пры ўсёй павазе, хочацца нечага больш аўтэнтычнага, культурніцкага. Але яны часам прыслухоўваюцца, нядаўна ў Маскве Купалле пачалі ладзіць. Раней існавала і больш незалежніцкая дыяспара. У Маскве была нават суполка Беларускага народнага фронту на мяжы 1980-90-х. Але ўсё гэта цяпер у каматозным стане: нехта памёр, нехта адышоў.

**– Можа, ёсць якая маладзейшая плынь?**

– Маладой плынню быў я, калі быў маладзейшы (смяецца). У нулявыя была “дзвіжуха”. У 2011-м, калі я вярнуўся з Лондана, таксама нешта круцілася. Але пасля Крыму прыйшла нейкая агульная апатыя... З іншага боку, калі нехта хоча судакрануцца з беларушчынай ці паўдзельнічаць у якімсьці беларускім праекце – з гэтым тут проста. Ноч у цягніку – і ты ўжо ў Мінску.

### Адзіная бяспройгрышная пазіцыя – гэта ўзаемная павага

**– Пасля Крыма вы нейк адчулі ўздым шавінізму? Стаўленне да ўкраінцаў ці беларусаў змянілася?**

– Шавінізму – дакладна не. Ступень непаразумення паміж расійцамі, беларусамі і ўкраінцамі павялічылася, так. Больш абвостранае адчуванне “свой-чужы”, асабліва што да ўкраінцаў. А ў дачыненні да беларусаў я б не сказаў, што на пабытавым узроўні нешта змянілася.

**– У Беларусі адносна Расіі вірую́ць палярныя думкі: ад “брацкай любові” да “адбудавацца сцяною”... На вашу думку, як мусяць у ідэале выглядаць беларуска-расійскія стасункі?**

– Расія нікуды не падзенецца: як была на ўсход ад Беларусі, так і будзе.

**– А калі разваліцца на розныя дзяржавы?**

– Людзі ўсё роўна застануцца тыя ж самыя. Адносіны паміж Расіяй і Беларуссю мусяць быць добрасуседскімі, збудаванымі на ўзаемнай павазе. А павагу выклікаюць людзі, якія перадусім паважаюць сябе. Калі беларусы ні тое не сёе: “Мовы не ведаем, культуры таксама, замежнікам кажам, што з Расіі, каб доўга не тлумачыць”, – то гэта сумна. Калі ж беларусы цвёрда стаяць за сваё, гэта ўжо зусім іншая пазіцыя. Крэмль не разбурыцца. Масква была, ёсць і будзе. Адносна Масквы трэба сябе ўпэўнена пазіцыянаваць. Але і варагаваць няма сэнсу: сёння адзін урад, заўтра – другі, трэці. У доўгатэрміновай перспектыве адзіная бяспройгрышная пазіцыя – гэта ўзаемная павага.

Алесь Кіркевіч,
budzma.by,
фота з архіву Алеся Чайчыца

навіны

# ГАЙНАЎКА, БЕЛАСТОК, КАТАВІЦЫ...

З гэтых ды іншых польскіх гарадоў прыходзяць весткі пра карыснае для абедзвюх краін беларуска-польскае ўзаемадзеянне.

Як прылівы і адлівы бываюць на моры, так і ў кантактах паміж народамі, краінамі выпадаюць розныя перыяды. Сёлета ў суседак, Беларусі ды Польшчы, ёсць добрая нагода, каб у плыні 450-годдзя з часу падпісання Люблінскай уніі пашыраць, паглыбляць узаемадзеянне. Гэта ж яшчэ ў 1569-м заключаны быў важны міжнародны прававы акт, што стаў падмуркам для дзяржаўнага саюзу паміж Каралеўствам Польскім і Вялікім Княствам Літоўскім. У нашым часе, праўда, пры згадках Рэчы Паспалітай некаторым падаецца, нібыта была гэты выключна дзяржава польская. Але ж – не, і пра тое сведчыць, у прыватнасці, часовая экспазіцыя ў Нацыянальным гістарычным музеі Беларусі, што днямі адкрылася, з яскравай назвай "Вольныя з вольнымі, роўныя з роўнымі", зладжаная Польскім інстытутам у Мінску. Дарэчы, у 2018-м Люблінская унія 1569 года была ўнесена ў Міжнародны рэестр ЮНЭСКА "Памяць свету" па захаванні сусветнай дакументальнай спадчыны. Прычым дакумент быў прадстаўлены як сумесны запіс пяці сучасных краін: Польшчы, Літвы, Украіны, Беларусі ды Латвіі.

"Пад знакам" такога важнага юбілею мы працягваем супрацу з беларускімі дыпламатамі ў Польшчы. Раней, нагадаем, асвятлялі працу Культурнага цэнтра Беларусі ў Польшчы, тамтэйшых беларускіх суполак, расказвалі не раз пра дзейнасць Беларускага грамадска-культурнага таварыства. А нядаўна з прапановай аб працягу ўзаемадзеяння да нас звярнуўся першы сакратар Амбасады Беларусі ў Польшчы Яўген Рабцаў. З ягонай падтрымкай агледзім навіны з заходняга боку, змешчаныя на сайце Амбасады.



Уладзімір Чушаў адкрывае будынак Ганаровага консульства ў Катавіцах

### 70-годдзе беларускага ліцэя святкавалі ў Гайнаўцы

Нашы сталыя чытачы, пэўна, памятаюць тэксты пра жыццё беларусаў у польскай Гайнаўцы. У адным з іх мы пісалі, як падлеткі з Гайнаўкі ў часе паездкі ў Беларусь пазнаёміліся з мінскімі аднагодкамі, пра створаны ў горадзе Комплекс школ з дадатковым вывучэннем беларускай мовы, у які ўваходзяць гімназія з ліцэем. Агульнаадукацыйнаму ліцэю з беларускай мовай навучання споўнілася 70 гадоў, і 27 верасня Амбасадар Уладзімір Чушаў паўдзельнічаў ва ўрачыстасцях з тае нагоды. Ён выступіў перад удзельнікамі святочнай імпрэзы, зачытаў віншавальны ліст Міністра адукацыі Беларусі Ігара Карпенкі, уручыў кіраўніцтву ліцэя Падзяку Амбасады Беларусі ў Польшчы за ўнёсак у пашырэнне беларускай мовы і культуры. У святочных імпрэзах паўдзельнічалі прадстаўнікі мясцовых уладаў, духавенства, ліцэісты з педагогамі, грамадска-культурныя дзеячы Беласточчыны, мясцовыя жыхары.

### "Пінская шляхта" ў Беластоку

Безумоўна, важнай падзеяй гэтай восені стаў паказ спектакля Нацыянальнага акадэмічнага тэатра імя Янкі Купалы "Пінская шляхта" ў Беластоку, на сцэне Драмтэатра імя Аляксандра Вянгеркі. Дарэчы, то былі першыя гастролі Купалаўскага тэатра ў юбілейным 100-м сезоне. Тады ж, 29 верасня, Амбасадар Беларусі ў Польшчы Уладзімір Чушаў знаходзіўся ў горадзе з рабочым візітам, наведаў спектакль. Там жа былі Генеральны дырэктар Купалаўскага тэатра Павел Латушка (ён, як вядома, у 2002–2008 гадах працаваў Амбасадарам Беларусі ў Польшчы), Генеральны консул Беларусі ў Беластоку Ала Фёдарава, а таксама і Маршалак Падляшскага ваяводства Артур Касіцкі, Прэзідэнт горада Беластока Тадэвуш Трускаляскі, мясцовыя беларусы, грамадска-культурныя дзеячы Падляшша.

На сайце тэатра ёсць удакладненне: купалаўцы былі запрошаны ў Польшчу на міжнародны фэст "Кірунак Усход". Спектакль паводле п'есы Вінцэнта Дуніна-Марцінкевіча прайшоў з велізарным поспехам, і пасля завяршэння дзеі публіка стоячы, з авацыямі вітала артыстаў з Беларусі. Заслугоўвае павагі, што Павел Латушка разам з мастацкім кіраўніком Мікалаем Пінігіным ды артыстамі тэатра Віктарам Манаевым і Аляксандрам Падабедам правялі творчую сустрэчу з вучнямі Ліцэя з беларускай мовай навучання ў горадзе Бельску-Падляскім. Да таго ж Павел Латушка пры падтрымцы Амбасады, консульскіх установаў правёў перамовы аб супрацы на перспектыву з кіраўнікамі шэрагу тэатраў Варшавы, імя Юліуша Астэрвы ў Любліне, Драмтэатра імя Аляксандра Вянгеркі.

### Конкурс "Спазнай Беларусь – 2019"

9 кастрычніка там жа, у Беластоку, дзе месціцца і сядзіба Галоўнага праўлення Беларускага грамадска-культурнага таварыства (БГКТ), урачыста ўшанавалі пераможцаў конкурсу. Яго традыцыйна праводзяць Культурны цэнтр Беларусі пры Амбасадзе Беларусі ў Польшчы (КЦБ) сумесна з БГКТ, сёлета пададзена было каля 200 прац (5 намінацый, 4 узроставыя катэгорыі). Журы адзначыла дыпломамі амаль 50 удзельнікаў конкурсу, і ўсе лаўрэаты атрымалі каштоўныя падарункі ад Культурнага цэнтра Беларусі.

### Офіс Ганаровага консула Беларусі адкрыты ў Катавіцах

Тое адбылося 2 кастрычніка. Ва ўрачыстай цырымоніі паўдзельнічалі Амбасадар Беларусі ў Польшчы Уладзімір Чушаў, Ганаровы консул Марэк Збігнеў Расіньскі, прадстаўнікі МЗС Беларусі ды Польшчы, мясцовых уладаў, бізнесу, сферы адукацыі, навукі. Варта нагадаць, што Ганаровы консул прыступіў да выканання абавязкаў 30 чэрвеня 2018 года, у ягонай консульскай акрузе – Малапольскае, Сілезскае ды Апольскае ваяводствы.

На сайце беларускай Амбасады паведамляецца, што спадар Марэк Збігнеў Расіньскі – гэта першы Ганаровы консул Беларусі на тэрыторыі Польшчы. І знакавае само адкрыццё офіса: бо гэта ж першая такая ўстанова Беларусі ў Польшчы, што сведчыць пра зацікаўленасць бакоў у развіцці адносін. У той жа дзень Амбасадар Уладзімір Чушаў сустракаўся з прадстаўнікамі мясцовых уладаў г. Катавіцэ. Абмеркаваліся пытанні бягучага стану супрацы між Беларуссю й Польшчай, перспектывы ўзаемадзеяння: як паміж краінамі ў цэлым, так і на рэгіянальным узроўні.

### Сустрэчы ў Вроцлаве

Адно з нядаўніх паведамленняў на сайце беларускай Амбасады ў Польшчы – пра рабочы візіт Амбасадара ў горад Вроцлаў (Ніжнесілезкае ваяводства). Там Уладзімір Чушаў меў сустрэчы з Старшынёй сейміка ваяводства Анджэем Ярахам і Прэзідэнтам Вроцлава Яцэкам Сутрыкам. Абмеркаваны бягучы стан супрацоўніцтва, перспектывы й напрамкі двухбаковага ўзаемадзеяння, у тым ліку на ўзроўні партнёрскіх і пабрацімскіх сувязяў гарадоў. Амбасадар паўдзельнічаў і ў юбілейнай сустрэчы "XV польска-беларускі круглы стол" на тэму "Польшча і Беларусь у міжнародных адносінах". Імпрэзу ладзіў Інстытут міжнародных адносін Вроцлаўскага ўніверсітэта. У ёй, дарэчы, паўдзельнічалі й прадстаўнікі Беларускага дзяржуніверсітэта.

Спадзяемся на працяг супрацы з Амбасадай, Культурным цэнтрам Беларусі ў Польшчы, Беларускім грамадска-культурным таварыствам. У пару, калі адзначаецца 450-годдзе з часу падпісання Люблінскай уніі, беларуска-польскае ўзаемадзеянне актывізавалася. Да таго ж 85 рэгіёнаў, гарадоў Беларусі маюць дамовы аб супрацы з рэгіёнамі і гарадамі Польшчы. Сімвалічна, што калі нядаўна ў Гродне сустракалі 100-тысячнага бязвізавага турыста, то ім аказаўся Аляксандр Кучынскі з Беластока: ён упершыню наведаў Гродна ў складзе групы з усходніх рэгіёнаў Польшчы. Нагадаем, што магчымасць без візы наведваць Гродна і ваколіцы іншаземцы атрымалі з кастрычніка 2016 года. І такім "бонусам" скарысталіся ўжо каля 250 тысяч гасцей Беларусі. А ў лідарах па колькасці турыстаў – Літва, Польшча, Латвія, Германія, Эстонія, Італія ды Францыя.

**Іван Ждановіч,**
**"Голас Радзімы"**



навіны

# УСЁ ПАЧАЛОСЯ З БУЛЬБЫ

Маркотная пара! Вачэй зачараванне! Так Аляксандр Сяргеевіч выяўляў сваё захапленне хараством восені. Увогуле, ён з'яўляўся вялікім знаўцам усяго прыгожага. Мабыць таму падчас наведвання Беларусі яго так уразіў Магілёў, архітэктура і людзі горада.

Натхненне тое спрыяла таму, што з пад пяра майстра выйшаў раман "Дуброўскі", правобразам галоўнага героя якога стаў беларускі шляхціц Павел Астроўскі. Любоў да гэтай краіны передалася і нашчадкам паэта: старэйшы сын жыў у Беларусі. Спаборнічаць з паэтычным талентам Пушкіна, канешне, справа няўдзячная, але я паспрабую расказаць пра сібірскую восеньскую пару, вочы якой пабачылі самабытнасць беларускай культуры ў розных яе праявах.

А пачалося ўсё з... бульбы! Раённы пасёлак Машкова Новасібірскай вобласці гэтай восенню прымаў абласны асенні кірмаш "Свята бульбы". Бульба – другі хлеб для беларусаў. Недарэмна, менавіта беларусы вядуць рэй у сусветным рэйтынгу па колькасці з'едзенай бульбы. Асноўнай тэматыцы кірмашу адпавядалі конкурсныя выставы "Смаката з бульбы" і "Бульбяныя дзівосы", сярод удзельнікаў якіх былі вылучаны пераможцы. А адабраць лепшых было вельмі няпроста! Народныя ўмельцы не толькі прыгатавалі смачныя стравы і змайстравалі незвычайныя вырабы, але і выявілі вялікую фантазію ў выбары назваў для сваіх работ. Журы ацэньвала смакавыя якасці "пляцёных лапаточкаў", "ружачак", "лодачак" і нават "буслоў на даху", а "капатыч", "сараканожка", "лясны алень" былі персанажамі, якімі трэба было выключна любавацца. І гэта ўсё з бульбы!

Не толькі бульбу, але і мноства іншых прадуктаў маглі набыць сібіракі на кірмашы беларускіх тавараў, цягам цэлага тыдня працавала ў Новасібірску. Беларускія каўбасы, малочныя вырабы, цукеркі, яблыкі, а яшчэ касметыка, абутак і адзенне. За ўсім гэтым ужо ў першыя гадзіны працы кірмашу выстраіліся вялікія чэргі. І гэта не дзіва! Словазлучэнне "Зроблена ў Беларусі" заўсёды было сінонімам высокай якасці і натуральнасці. У цырымоніі адкрыцця кірмашу бралі ўдзел мэр Новасібірска Анатоль Локаць, намеснік губернатара Новасібірскай вобласці Сяргей Сёмка, Саветнік аддзялення Пасольства Рэспублікі Беларусь у Расіі ў Новасібірску Андрэй Гасюк, намеснік Старшыні праўлення Белкаапсаюза Інэса Караткевіч, кіраўнік Новасібірскага цэнтра беларускай культуры Анастасія Дзяменцьева. Прысутнасць персон такога высокага ўзроўню гаворыць аб тым, што гасцям з Беларусі заўсёды рады на сібірскай зямлі.

А мы, цэнтр беларускай культуры, заўсёды рады, калі можам сабраць разам прадстаўнікоў беларускай дыяспары. Па традыцыі, у Дзень пажылога чалавека наш цэнтр арганізуе сустрэчы для членаў Новасібірскай нацыянальна-культурнай аўтаноміі беларусаў. І ў гэтым годзе мы не парушылі правіла. Падчас кулінарнага майстар-класа беларусы падзяліліся традыцыямі, якія дагэтуль "жывуць" у іх сем'ях, а таксама сакрэтамі прыгатавання нацыянальных беларускіх страў. Дарэчы, аўтаноміі беларусаў ужо больш за 20 год. З яе ініцыятывы ў 2000 годзе быў створаны Новасібірскі цэнтр беларускай культуры. Сумеснымі намаганнямі мы стараемся адкрыць беларускую культуру для жыхароў Сібіры.

Такім чынам, першая палова восені парадавала нашы вочы не толькі яскравым сонейкам і жоўтым, шамацелым пад нагамі лісцем, але і такімі цёплымі, па-беларускі душэўнымі падзеямі, якія ўвойдуць у гісторыю беларускага руху Сібіры, захаваўшыся ў памяці і на фотаздымках.

**Таццяна Нялюбіна, метадыст Новасібірскага цэнтра беларускай культуры**

# САМАДЗЕЙНЫЯ: РОДНЫЯ, НАДЗЕЙНЫЯ

Выйшаў першы том кнігі "Творчыя калектывы беларусаў замежжа". Ён падрыхтаваны супрацоўнікамі Рэспубліканскага цэнтра нацыянальных культур.

Складальнікі выдання – начальнік аддзела народнай творчасці, кандыдат філалагічных навук Алесь Лозка і намесніца дырэктара РЦНК Валянціна Грышкевіч. Яны правялі вялікую даследчую працу, высветлілі: у свеце дзейнічае каля 200 творчых беларускіх калектываў. Адшукаць іх дапамагалі ў тым ліку і дыпламаты з беларускіх амбасадаў. Дарэчы, варта мець на ўвазе: многіх мастацкіх кіраўнікоў тых суполак РЦНК мае магчымасць запрашаць на творчыя стажыроўкі, а самі гурты – на фэсты беларусаў свету.

Гэта звычайна беларускія ансамблі песні, танца, ёсць нават самадзейныя тэатры. Найбольш творчых гуртоў, як сведчыць выданне, у Расіі, Польшчы, Латвіі, Літве, Эстоніі, Украіне, Казахстане, ЗША, Малдове, Італіі. Асобныя творчыя групы ёсць у Аргенціне, Арменіі, Аўстраліі, Ізраілі, Канадзе, Сербіі, Узбекістане, Францыі, нават у Паўднёва-Афрыканскай Рэспубліцы. Некаторым з іх супрацоўнікі аддзела народнай творчасці РЦНК ужо дапамаглі з набыццём беларускіх нацыянальных касцюмаў, музінструментаў, перадаюць супляменнікам-энтузіястам і метадычную літаратуру. У навукова-папулярным выданні апісаны этапы развіцця і станаўлення творчых суполак беларусаў за мяжой. Вялікая ўвага надаецца мастацкім калектывам, якія актыўна прэзентуюць беларускую культуру ў розных краінах. У выданні можна знайсці шмат цікавых звестак пра жыццё нашых супляменнікаў па-за межамі Бацькаўшчыны ў розныя гістарычныя перыяды.

Кніга выйшла дзякуючы падпраграме "Беларусы ў свеце" Дзяржпраграмы "Культура Беларусі" на 2016-2020 гады. Цяпер рыхтуецца другі том выдання. Яго плануецца прысвяціць непасрэдна вядомым творчым калектывам беларускіх суполак замежжа.

**Ганна Лагун, "Голас Радзімы"**



навіны

# ЭТНА-ТРЫА "ТРОІЦА" Ў КАНАДЗЕ

17–20 кастрычніка ў Таронта візітавала этна-трыа "Троіца", гурт, заснаваны ў 1994 годзе вядомым збіральнікам фальклору Іванам Кірчуком. У сучасны склад гурта таксама ўваходзяць барабаншчык Юры Паўлоўскі і гітарыст Юры Дзмітрыеў.



За час існавання гурт даў сотні канцэртаў, не толькі ў Еўропе, а нават у Чылі і Малайзіі. І вось, нарэшце, надышоў час для візіту ў Паўночную Амерыку з адзіным канцэртам у канадскім горадзе Таронта, які адбыўся 18 кастрычніка.

Доўгачаканы пятнічны вечар. У Таронта прыбылі нашыя суродзічы з розных litгарадоў Антарыя. Памяшканне клуба напоўнілася беларускай гамонкай сотняў людзей. У праграме этна-трыа гучалі спевы "Русальная", "Вясельная Мар'я", "Шэльма", "Яблынь мая", "Сем чарак гарэлкі", "Зіма з Летам", "Мядзведзь" ды іншыя. Гэта трэба было бачыць, якія карагоды вадзілі ў залі клуба пад спевы "Троіцы"! Незвычайная чароўная музыка, незвычайныя словы спеваў, незвычайнае адзенне Майстра, незвычайныя адчуванні аўдыторыі. Чаканні спраўдзіліся. Мары здзейсніліся. Цуд здарыўся.

З выказванняў аднаго з наведнікаў канцэрту: "Падавалася, што ўся беларуская грамада правінцыі сабралася ў Mod Theatre Club. Шыкоўнае выступленне. Ацэньваю на дзесяць з дзесяці. Усе вельмі задаволены. Выдатнае дэманстрацыя нашага нацыянальнага мастацтва праз сучасныя формы выканання! Жыве Традыцыя! Жыве Беларусь!"

Беларусы Таронта, што не мелі магчымасці трапіць у Mod Theatre Club у пятніцу, у суботу 19 кастрычніка выправіліся ў даўнтаўн мегаполіса, дзе на Сэнт-Клэрэнс авеню мелася адбыцца сустрэча з легендарным гуртом, арганізаваная парафіяй Св. Кірылы Тураўскага (БАПЦ), Згуртаваннем Беларусаў Канады і арт-гасцёўняй "Родны Край". У праграме сустрэчы была сумесная з этна-трыа "Троіца" сяброўская вячэра, аўтограф-сесія і прэзентацыя Івана Кірчука "Магія беларускага фальклору". Ягоная лекцыя літаральна зачаравала запоўненую залю Беларускага Цэнтру ў Таронта. Дзіўныя гукі разнастайных музычных інструментаў перамяжоўваліся спевамі незвычайных тэмбраў з багатаю гамаю гукавых адценняў. Нават дзеткі, звычайна гаманлівыя, гэтым разам глядзелі і слухалі не варухнуўшыся. Разняволены, бадзёры стыль вядоўцы вечарыны Ірыны Тоўсцік спрыяў агульнаму настрою і расслабленасці прысутных. Безумоўна, тую дзею, што мела месца ў прыгожы суботні вечар ў Беларускай Хаце, трэба сапраўды бачыць і чуць, каб ацаніць хараство высокага майстэрства. Па сканчэнні монаспектаклю больш за 70 удзельнікаў вечарыны працяглымі авацыямі, стоячы, шчыра дзякавалі Івану Кірчуку, Юру Паўлоўскаму і Юру Дзмітрыеву.

Першаіерарх БАПЦ Архіепіскап Святаслаў і старшыня Галоўнае Управы Алёна Лявончанка падзякавалі ўдзельнікам "Троіцы" за расповед, музыку і спевы, за свята, падараванае беларускай грамадзе ў Канадзе. Апрануты ў старажытныя ліцвінскія строі, Алесь Кот выказаў колькі добрых слоў на адрас "Троіцы" ад імя прысутных у залі ўдзельнікаў мастацкае вечарыны і аддзячыў артыстам кнігамі.

Кожны з сябраў этна-трыа атрымаў кнігі "Беларускія фестывалі й выстаўкі ў Нью-Джэрсі" Янкі Запрудніка, факсімільнае выданне "Мова ў гісторыі беларускага пісьменства" Аўгена Калубовіча, "Дэпутаты Незалежнасці" Сяргея Навумчыка і Зянона Пазняка і "Палын-палын" Зянона Пазьняка. Асобна кіраўніку "Троіцы" Івану Кірчуку была ўручаная кніга Зянона Пазняка "Тэрра Дэй", а ўсяму гурту – чырвона-белчырвоны канадскі сцяг.

За аўтографамі да спадара Івана выстраілася чарга. Узрушаныя ўбачаным і пачутым у гэты дзень, людзі не разыходзіліся з Беларускага Цэнтру Таронта амаль да паўночы.

Колькі пазітыву прынесена ў жыццё нашых суродзічаў на чужыне! Пачуццё дотыку да роднага, адчуванне духоўнае сувязі з Бацькаўшчынай – тое, што так патрэбна нам, эмігрантам, каб не спраўдзілася сказанае аднойчы ў роспачы: "У заможнай далечы, у духоўнай галечы душу беларуса лёс пакалечыў..."

Рэспект і падзяка актывісту беларускае суполкі ў Канадзе Змітру Лановічу, які больш за год таму ўзяўся за арганізацыю першага візіту "Троіцы" ў Паўночную Амерыку і давёў справу да лагічнага канца.

**Алесь Кот**

# ДЗЕНЬ БЕЛАРУСКАЙ КУЛЬТУРЫ Ў ЛІВАНАХ

12 кастрычніка ў Ліванах (Ліванах), у Доме культуры, адбыўся Дзень беларускай культуры, прысвечаны 100-годдзю беларускай дзяржаўнасці.

У святочным канцэрце беларускія народныя і аўтарскія песні спявалі вакальныя ансамблі "Узоры" з Ліван (кіраўніца Яніна Юзэфовіч), "Калінушка" і "Рабінушка" з Прэйляў (кіраўніца Святлана Сцяпанава), "Крыніца" з Лудзы (кіраўніца Вера Дарэйка-Сінкевіч), дуэт Яўген Пашкевіч і Лідзія Знотыня з Ліван.



Я прачытаў свой верш "Да стагоддзя беларускай дзяржаўнасці". Песні на мае словы і музыку Альберта Белуся выканалі ансамбль "Узоры" – "Касцёр для дваіх" і ансамбль "Калінушка" – "Астры". Ансамбль "Лянок" (кіраўніца Марына Мядунецкая) з Даўгаўпілса выканаў танец "Ручнік" пад гучанне аднайменнай песні на мае словы і музыку Альберта Белуся. Са словамі прывітання да прысутных звярнуліся віцэ-мэр Ліванскай думы Гінта Краўкле, консул Генеральнага консульства Беларусі ў Даўгаўпілсе Мікалай Раманкевіч, выконваючы абавязкі генеральнага консула Генеральнага консульства Расіі ў Даўгаўпілсе Наталля Пуставалава, старшыня Саюза беларусаў Латвіі Валянціна Піскунова, старшыня беларускага таварыства "Прамень" і член праўлення СБЛ Алена Лазарава.

У фае была размешчана выстава плакатаў, якая расказвала пра Беларусь у розныя перыяды яе гісторыі.

Выказваю падзяку гаспадарам імпрэзы і ліванскаму Славянскаму таварыству "Узоры" за гасціннасць і супрацоўніцтва. Упэўнены, што яно і надалей будзе плённым!

**Станіслаў Валодзька**

**навіны**

# ПРЫВІТАННЕ, РОДНАЯ СТАРОНКА!

Тальяцінскія беларусы распачалі ў кастрычніку цэлы шэраг імпрэзаў з канцэртнай праграмай пад назвай "Здравствуй, рОдная старОнка!".

Канцэрт праходзіў на пачатку кастрычніка ў муніцыпальнай аўтаномнай установе гарадской акругі Тальяці (Расія), што мае з пачатку 2019-га назву Культурны цэнтр "Автоград". Нягледзячы на цёплае, "дачнае" пакуль што надвор'е, у Малой зале "Автограда" сабралася больш чым 250 гледачоў. Такі давер публікі нас акрыляе! Народны самадзейны ансамбль беларускай песні "Купалінка", што дзейнічае пры мясцовай суполцы "Нёман", жыхары горада ведаюць даўно. І на гэты раз удзельнікі ансамбля парадавалі гасцей новымі прыгожымі касцюмамі, якія нам нядаўна прывезлі з Мінска, ды новымі песнямі.

Тыя з чытачоў "ГР", хто сочыць за навінамі беларускага жыцця ў Тальяці, ведаюць: адбываюцца змены ў складзе "Купалінкі". У ансамблі – новыя салісткі: Вольга Якупава ды Алена Чурбакова. Таленавітая Кацярына Вашчанка, творчасць якой гледачы ведалі й па ранейшых выступленнях гурта, па просьбе гледачоў праспявала песню пра жураўлёў.


Людміла Дзёміна і Марыя Шылкіна. Фота Аляксандра Арнда

У праграме "Здравствуй, рОдная старОнка!", якую вялі Людміла Дзёміна і Марыя Шылкіна, паўдзельнічаў і народны ансамбль балета "Креатив" – нашы сябры паказалі танец "Весну звали". А народны ансамбль танца "Ритмы планеты" выканаў жартоўны танец "Коварное лакомство". За лета нашы гледачы засумавалі па прыгожых, вясёлых і лірычных беларускіх песнях і танцах, так што прымалі артыстаў на "ўра".

**Кацярына Салановіч, "Голас Радзімы"**

# НА МАГІЛЕ ХВЕДАРА НЮНЬКІ ЎСТАЛЯВАЛІ ПОМНІК

На магіле Хведара Нюнькі (1928–2018), славутага віленскага беларускага дзеяча, пахаванага на праваслаўных могілках у раёне Ліпоўка (Лепкальніс), з'явіўся помнік.

Хведар Нюнька – адзін з заснавальнікаў Згуртавання беларусаў свету "Бацькаўшчына", цягам некалькіх дзесяцігоддзяў узначальваў Таварыства беларускай культуры ў Літве, ініцыяваў стварэнне беларускай школы ў Вільні, разам са сваімі паплечнікамі дамогся ўганаравання шэрагу славутых беларусаў – дзякуючы гэтаму іх імёнамі названыя некаторыя вуліцы горада, усталяваныя дзясяткі мемарыяльных дошак і захавана месца забойства Кастуся Каліноўскага на Лукішскім пляцы.






Паколькі Хведар Нюнька быў пахаваны побач з сваёй жонкай Нінай, каб усталяваць яму помнік патрабавалася сур'ёзная рэканструкцыя агульнага надмагілля. Асноўны фінансавы цяжар па рэалізацыі рэканструкцыі лёг на плечы сям'і спадара Хведара. Але не засталіся ўбаку і тыя беларусы, для якіх смерць Хведара Нюнькі стала таксама і асабістай стратай.

Ад імя сям'і спадара Хведара і Згуртавання "Бацькаўшчына" мы шчыра дзякуем усім, хто пералічваў сродкі, каб дапамагчы годна ўганараваць памяць чалавека, які, прысвяціў сваё жыццё служэнню Беларусі.

**Інфармацыйны цэнтр МГА "ЗБС "Бацькаўшчына"**

## Беларускі каляндар памятных дат на лістапад 2019 года

**1 лістапада**
- 110 гадоў таму, у 1909-м, нарадзіўся Іван Касяк, грамадскі дзеяч, публіцыст, гісторык, дзеяч эміграцыі ў Нямеччыне і ЗША.
- 35 гадоў таму, у 1984-м, памёр Пётр Сергіевіч, мастак.

**2 лістапада**
- Дзяды
- 150 гадоў таму, у 1869-м, нарадзіўся Язэп Стаброўскі, археолаг, краязнавец.
- 60 гадоў таму, у 1959-м, памёр Аляксандр Орса, педагог, доктар прыродазнаўства, дзеяч эміграцыі ў Нямеччыне і ЗША.

**4 лістапада**
- 225 гадоў таму, у 1794-м, загінулі Якуб Ясінскі, вайсковы і палітычны дзеяч, інжынер, паэт, адзін з кіраўнікоў паўстання 1794 г., і Тадэвуш Корсак, дзяржаўна-вайсковы дзеяч.
- 90 гадоў таму, у 1929-м, нарадзіўся Сяргей Карніловіч, грамадскі і рэлігійны дзеяч, дзеяч эміграцыі ў ЗША.

**8 лістапада**
- 235 гадоў таму, у 1784-м, нарадзіўся Тодар Нарбут, гісторык, археолаг, краязнавец.

**10 лістапада**
- 270 гадоў таму, у 1749-м, нарадзіўся Мацей Радзівіл, драматург, кампазітар.
- 95 гадоў таму, у 1924-м, памёр Міхаіл Галянкевіч, грамадскі дзеяч, праваслаўны святар.

**13 лістапада**
- 30 гадоў таму, у 1989-м, памёр Фёдар Янкоўскі, мовазнавец.

**14 лістапада**
- 80 гадоў таму, у 1939-м, Заходняя Беларусь афіцыйна ўключана ў склад БССР.

**16 лістапада**
- 105 гадоў таму, у 1914-м, нарадзіўся Язэп Семяжон (Семяжонаў), перакладчык, літаратар.

**19 лістапада**
- 15 гадоў таму, у 2004-м, памерла Юзэфа Найдзюк (дзяв. Брэчка), дзеяч нацыянальна-вызваленчага руху, дзеяч эміграцыі ў Нямеччыне і ЗША.

**22 лістапада**
- 75 гадоў таму, у 1944-м, памёр Кузьма Чорны (сапр. Раманоўскі Мікалай), пісьменнік, класік беларускай літаратуры, публіцыст.

**25 лістапада**
- 305 гадоў таму, у 1714-м, нарадзіўся Тамаш Жаброўскі, асветнік, архітэктар, астраном, матэматык.

**26 лістапада**
- 155 гадоў таму, у 1864-м, памёр Тодар Нарбут, гісторык, археолаг, краязнавец.
- 110 гадоў таму, у 1909-м, нарадзілася Яніна Каханоўская, дзеяч эміграцыі ў ЗША.

**30 лістапада**
- 120 гадоў таму, у 1899-м, нарадзіўся Міхась Лынькоў, дзіцячы пісьменнік, літаратуразнавец.

**Беларусы ў свеце**
№ 10 (209), кастрычнік 2019

Інфармацыйны бюлетэнь
МГА "ЗБС "Бацькаўшчына"

Распаўсюджваецца на правах унутранай дакументацыі.
Меркаванні аўтараў могуць не супадаць з думкай рэдакцыі.

Падрыхтоўка матэрыялаў і вёрстка – С. Кандрацёнка
Адказныя за нумар – Н. Шыдлоўская, А. Макоўская
Наклад 250 асобнікаў

Адрас рэдакцыі:
вул. Кузьмы Чорнага, 31, офіс 906
г. Мінск 220012, Рэспубліка Беларусь
zbsb.org e-mail: zbsb.minsk@gmail.com
тэл./факс (+375 17) 370-10-12